„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 20 (64) БЕЛАСТОК, 19 МАЯ 1957 г. ГОД II



*Марыя Трыкашкова-Ігнатовіч — жыхарка вёскі Руда, у Беластоцкім ваяводстве, пражывае ўжо 134 вясну. Мае добрую памяць, добра бачыць, толькі крыху недачуе, але затое ходзіць і бадзёра сябе адчувае.* *Фото — І. Рыбінскі*

## Патрэбны Беларускі драматычны тэатр

Трэба пахваліць ініцыятыву ГП БГ-КТ у напрамку стварэння эстраднай групы. Такая група, несумненна, вельмі патрэбная ў нашых умовах.

Па-першае: калектыў невялікі, а ў сувязі з гэтым непатрэбны каштоўны транспарт дзеля даезду ў вёскі.

Па-другое: выступаць можа ў прымітыўных умовах нашых вёсак, а гэта вельмі важны момант у нашай працы.

Па-трэцяе: т. зв. «малыя мастацкія формы» наогул лепш успрыймаюцца вясковым гледачом.

Верш, песня, апавяданне, адпаведна дабраны і ў добрым выкананні — можа шмат зрабіць у галіне распаўсюджвання беларускай культуры.

Эстрадная група, пакуль што, у стадыі арганізацыі. Кіраўніцтва і калектыў напатыкае на шматлікія цяжкасці. Таму трэба пакласці ўсе намаганні на тое, каб дапамагчы гэтай групе.

Слушная ініцыятыва не можа памерці «натуральнай смерцю». Але «малыя формы» — гэта не ўсё. Ёсць і «вялікія формы». Маю на думцы, перш за ўсё, драматургію. Беларуская драматургія мае багатыя традыцыі. Шпаркімі тэмпамі развіваецца і сучасная беларуская драматургія. Гаворачы аб шырокім азнаямленні з беларускай культурай, нельга прайсці міма яе.

Сказаць трэба ясна, што трэба сарганізаваць Беларускі драматычны тэатр. Такая патрэба існуе здаўна. Трэба знаёміць беларусаў з драматургіяй. Ды і польская грамадскасць абсалютна не ведае беларускай драматургіі.

На польскіх сцэнах ставілася камедыя К. Крапівы «Хто смяецца апошні» ў пераапрацоўцы Е. Юрандота. І больш нічога. Але існуе, працуе і развіваецца Беларускае грамадска - культурнае таварыства.

Партыя і урад паставілі перад ім задачу: распаўсюджваць беларускую культуру не толькі сярод беларусаў, але і сярод рэшты насельніцтва пражываючага ў Польшчы.

(Працяг на стар. 2).

Уладзімір Гайдук

## ДА СОНЦА

Рвіся думка ў свет шырокі,
Упрост праз віхры, ў сіні далі,
У свет далёкі, ў свет глыбокі,
Каб усе на свеці знялі,

Што народы — ў рэчцы воды,
Людзі — гэта дажджу кроплі,
Вякі — гэта непагоды,
Багачы — то з лёду соплі.

Сонца свеціць, вецер вее,
Ноч праходзіць, зноў віднее.
Так гадамі час праходзіць,
Сонца ўсходзіць, то заходзіць.

А на роднай Беларусі
Сонца ўсходзіла вякамі
І ніхто не здолеў змусіць
Каб сонца не было з намі.

Ясна сонца не свяціла,
Як служылі царскім слугам,
Пасля шляхта нас «здабыла»,
Йзноў схіліўся карк нам, слугам

Наша сонца — родна мова,
Наша сонца — родны песні,
А наш шлях — жыцця аднова
Доля, воля ўваскрэсні!

Навучылі нас служыці,
Не забылі кіем біці,
Навучылі нас кланяцца
Й мужыкамі называцца.

Пагарджалі нашым станам
І цягнулі пот крывавы,
Мы скаціна, яны паны,
Але інакш вышлі справы.

Узышло сонца, агнём паліць,
Задрыжэлі паны зброды.
Час адплаты ў бубенваліць
І тапнеюць з лёду соплі.

Сонца свеціць, агонь ззяе,
Вецярок агонь разносіць.
Пан ад мужыкоў уцякае
І а ласку яшчэ просіць.

Вось і «ласка» мілы пане,
Табе вечнэ спачыванне.
Каршун вочы выдзяўбаў,
А крук падла раскляваў.

Папялішчы. Агонь тлее,
І паноў нямаш!
Ясна сонца палымнее
І шлях ясны — наш!

Рвіся думка ў свет шырокі,
Упрост праз віхры, ў сіні далі,
У свет далёкі, у свет глыбокі
Каб усе на свеці знялі,

Што народы — ў рэчцы воды,
Людзі — гэта дажджу кроплі,
Вякі — гэта непагоды,
Багачы — то з лёду соплі.

Сонца свеціць, вецер вее,
Ноч праходзіць, дзень віднее
Так гадамі час праходзіць,
Сонца ўсходзіць, то заходзіць.

А на нашай Беларусі
Сонца шлях нам пракладае,
А на нашай Беларусі
Народ песенькі спявае.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# На радзіме Кастуся Каліноўскага



*На ўскраіне ўзгорка, ля дарогі, расце стары каштан. Мабыць, у ценю яго калісьці раздумваў Кастусь над доляй свайго народа.*

Упершыню пра Кастуся Каліноўскага я пачуў, калі ўжо канчаў сярэднюю школу. Пераглядаючы толькі што купленую «Гісторыю СССР» выпадкова трапіў на даволі доўгую біяграфічную інфармацыю аб ім, з якой даведаўся, што нарадзіўся ён у невялічкай вёсцы Мастаўляны над Свіслаччу (усходні рубеж Беластоцкага павета).

Пасля, чытаючы штораз больш матэрыялаў аб Студзеньскім паўстанні 1863 года і біяграфічна - гістарычныя матэрыялы аб ім, усё ўзмацнялася ў мяне жаданне пабываць у родных мясцінах нашага вялікага суродзіча.

І вось урэшце маё жаданне спаўняецца.

Апошні паварот ухабістай пал:вой дарогі і на ўзгорку паказаліся першыя хаты, над дахамі якіх узвышаюцца высокія дрэвы яшчэ слаба пакрытыя маладзенькай, майскай лістотай. Мастаўляны! Радзіма геаічнага змагара за лепшую долю нашага народа! Цяжка стрымацца ад хвалявання...

І тут спатыкаюся з першымі расчараваннямі. Там, дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі ямаль не засталося ніякага следу. Чуць не ўсе хаты ўжо нашай даты. Зрэшты, нічога дзіўнага — над краінай прайшлі дзве страшэнныя сусветныя войны — два вялікія пажары. Усё-ж-такі упарта кідаюся ў пошукі хаты, у якой нарадзіўся Каліноўскі, і якую мелася забяспечыць перад знішчэннем Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства.



*Рэшткі фундаменто па старым палацыку. Ці не тут 21 студзеня 1838 года прыйшоў на свет будучы «Дыктатар Беларусі і Літвы»?*

Ведзены гістарычнымі звесткамі накіроўваюся на рэдка парослы дрэвамі ўзгорак, на якім калісьці красаваўся шляхецкі палацык.

Цяпер на гэтым узгорку ўладаюць два гаспадары: 78-гадовы Пятро Зарэцкі і Міхась Арцёмчык, продкі якіх, мабыць, адраблялі паншчыну ў гэтым маёнтку.

Не пашчасцілася мне, Пятра Зарэцкага не застаў дома. Але не менш можа мне дапамагчы яго сын — Віктар. Дзякуючы яго спагадлівасці, пачынаю экскурсію па мясціне. Далучаецца да нас зацікаўлены Міхась Арцёмчык. На маё запытанне, ці нешта чулі пра свайго вялікага суродзіча, Кастуся Каліноўскага, здзіўлена паціскаюць плячыма.



*Смольныя, здаровыя былі сцены гэтага палацыка. Міхась Арцёмюк выбраў яшчэ з іх даволі матэрыялу на пабудову хаты для сябе.*

— Тут калісьці — кажуць, — стаяў палацык. Ёсць толькі даўні, крыху перабудаваны чварак, якому ўжо хіба са сто год.

Гляджу на патанаючыя ў зямлю рэшткі даўніх фундаментаў, кавалкі вялізных цэглаў.

— Ведаеце, ёсць яшчэ ў нашай вёсцы адзін стары чалавек, Мікола Ляўкоўскі. Зайдзіце да яго...

Васьмідзесяцігадовы Мікола Ляўкоўскі прыпамінае толькі, што быў тут калісь пан Радавіцкі, а пасля Вольмар, але пра... Каліноўскіх!?... ён не чуў.

Разгублены выходжу на вуліцу вёскі. З гародаў даносяцца адгалоссі веснавых работ, пахраванне каней. Цікаўная група дзяцей ля плота пільна сочыць за мною. Гляджу ў іх бестурботныя, наіўныя тварыкі і думаю: «І вы, напэўна, не чулі пра свайго Кастуся»...

Вуліца. У грозныя дні 1863 года збіраліся тут людзі, чыталі «Мужыцкую Праўду», адозвы. Хто ведае, ці не на гэтым спарахнелым стоўбчыку чыясьці рука прыклейвала славуты «Прыказ Беларускага Чырвонага Ронду»?! Ці не гэтай дарогай ішлі сувязісты ў атрады беларускіх паўстанцаў?! Ці не тут часам пахаваны гераічны жаўнер «Дыктатара Беларусі і Літвы»?!

З задумлення вырваў мяне чыйсьці голас. Побач дарогі, за плугам, стаіць гаспадар і памахвае мне рукою. Падыходжу.

— Хведар Гарадкевіч — прадстаўляецца. — Я чуў, што вы збіраеце матэрыялы пра Каліноўскага.

«Нарэшце»... — падумаў я.



*Стары, крыху перабудаваны, паншчынны чварак у якім цяпер змяшчаецца школа.*



*Стары шлях. Хто ведае, ці не па ім ішлі атрады беларускіх паўстанцаў?*

У размове даведваюся, што Хведар Гарадкевіч цікавіцца беларускай літаратурай. Яшчэ да вайны чытаў пра Кастуся Каліноўскага.

— Кастусь нарадзіўся не ў Мастаўлянскім фальварку, а ў вёсцы — станоўча заяўляе. Яго бацька быў рамеснікам — ткачом і меў дом над Свіслаччу, побач млына. Насупраць, была карчма яўрэя Бэрка. У 1914 годзе ўсё гэта згарэла, і млын таксама. Да вайны былі яшчэ ў вёсцы людзі, якія перажывалі Студзеньскае паўстанне. Спазніліся вы... — паглядзеў на мяне з дакорам.

— Мо' ў царкоўным архіве што-небудзь знойдзеце — раіць. Раней была гэта ўніяцкая царква.

Пажылы свяшчэннік, Анатоль Каспэрскі, расклаў рукі.

— Архіў — кажа — загінуў у часе I сусветнай вайны. Царква, што праўда, даўно пабудавана — у 1840 годзе, але апроч яе, нічога не засталося.

Нічога не засталося... Нават у мастаўлянцаў.

Іду далей. У вёсцы ёсць грамадская бібліятэка.

На маё запытанне, ці ёсць беларускія кніжкі, загадчыца бібліятэкі здзіўлена паглядзела на мяне.

У Мастаўлянах я ўжо больш пра нішто не пытаў...

Тэкст і фото —
С. Яновіч.



*Царква пабудаваная ў 1840 годзе.*

ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

## Ой, рана на Івана*

*(Старонкі маленства Янкі Купалы).*

### У НАСТУПНУЮ НЯДЗЕЛЮ

Янка прыгнаў каровы. Маці напаіла яго сырадоем. Потым вымыла сына, дала надзецца ў чыстае і пасадзіла за стол.

— Сядзі тут, прыйдзе пан настаўнік, будзеце вучыцца!

У хаце было прыбрана, як перад самым вялікім святам. Чыста вымытая падлога заслана каляровымі палавікамі. На стале карункавая сурвэта. Лісце на кветках, што стаялі на покуце і на падаконніках, перацёрта, блішчыць, як лакіраванае. Ззяе ля печы на куфры самавар, начышчаны крэйдай. Ціха і душна. На печы старанна мыецца кот. Хіліць хлопчыка да сну, самі зліпаюцца вочы.

Праз сон пачуў Янка голас маці:

— Проша, паночку, у хату, проша!

І ў хату ўвайшоў паголены, падобны на ксяндза панскі канторшчык. За ім — Дамінік Ануфрыевіч.

Бянігда Іванаўна, узяўшы самавар, пайшла ў сенцы. Бацька пазнаёміў пана канторшчыка з Янкам, запрасіў яго сесці і сам прысеў у канцы стала.

Янка неяк адразу адчуў непрыязнасць да свайго першага «настаўніка». Чаму? Ён не мог на гэта адказаць. Але і белыя потныя рукі, і лысіна, і нейкая ліслівая, саладжавая ўсмешка — усё здалося такім агідным, брыдкім, што хацелася хутчэй выскачыць з-за стала, схавацца за маці.

Пачалося вучэнне. Канторшчык разгарнуў чорны малітвеннік. Манатонна, распяваючы, чытаў «пацеры». Янка, не разбіраючы слоў, нічога не разумеючы, павінен быў паўтараць па-польску: «Дзісь свенты дух сон...» Язык не падпарадкоўваўся хлопчыку, галава хілілася на бок. «Дзі-сон, дзі-со-он, дзі-со-он», — мармытаў ён, збіўшыся з панталыку і пазіраючы ў столь. У расчыненае акно заляцеў чмель, гудучы сваю песню. Янка нават узрадаваўся гэтаму. Свавольная думка прыйшла ў галаву: вось бы сеў чмель на лысіну «настаўніка». І нашто здалася яму, Янку, такая навука? Ужо лепш да самай смерці пасвіць каровы... А чмель кружыўся, кружыўся і сапраўды апусціўся на лысіну. Канторшчык страшэнным голасам залемантаваў:

— Д'яба-а-ал, д'я-я-яб-а-а-а-л! Ой, ой, ой, ратуйце мяне!

У той-жа вечар Янка рашуча заявіў бацьку:

— Не хачу па-панску вучыцца!

Дамінік Ануфрыевіч узяў у рукі раменную папружку, прыгразіў сыну.

— А гэта навошта?!

Уявілася Янку, што вось, вось схопіць яго бацька, заціснe паміж каленяў, пачне біць. Ніколі яго яшчэ не білі. Дрыжыкі пайшлі па ўсім целе. Хочаш не хочаш, а як сказаў бацька, так і будзе. Бо заласць пытлю, што месца сабе не знойдзеш.

У наступную нядзелю канторшчык задаў хлопчыку пісаць роўныя прыгожыя кружочкі. Сядзеў Янка за сталом, выводзіў іх на лістку. Адны сталі роўненька і былі падобны на жалуды, другія распіналіся па баках і курчыліся. Тады Янка прырабіў ім рожкі, ножкі і хвосцікі.

— Гэта чорцікі скачуць, праўда, Ясік? — запыталася сястра, глянуўшы на яго лісток. Засмяялася яна і пайшла скакаць.

Добра яна скача, ды вось бяда: няма музыкі. Дадумаўся Янка, скруціў са сшытка дудку, грае. Дурэюць дзеці, весяляцца. Не прыкмецілі яны, як з'явіўся ў хаце бацька. Зняў ён рэмень і моцна адсцябаў сына. Лепш не пападацца яму пад руку, вучыць, што загадаюць, вырашыў Янка. Аднак да навукі вялікай ахвоты ён не меў.

### ХАЧУ ЧЫТАЦЬ

У нядзелю бацька прывёз з мястэчка Радашковічы калянлар. Гэта была першая руская кніжка, ды яшчэ з малюнкамі, якую ўбачыў Янка. А як узрадаваўся ён! Здзівіў яго надпіс «Разрешено цензурой» — літары тут не былі падобныя на польскія.

— Тата, я хачу чытаць гэтую кнігу!

— Зямля твая навука, не кніга. Кнігі не для нас — для паноў пішуцца... — з горыччу адказаў бацька і закашляўся, прыкладаючы да ўпалых грудзей напрацаваныя рукі.

— Ці-ж я не хацеў сам вывесці цябе ў людзі, вывучыць... Ды ці выходзіць так, як хочаш? Спытайся ў маці. Сала, шынкі, масла — усё аддавала яна таму канторшчыку. Ды яму і гэтага мала. Патрабуе прыбаўкі... Лепш ужо, Ясь, і не заглядайся на кнігі. Паслухай мяне, не будзе з гэтага толку...

На досвітку, як заўсёды, падняўся Ясь, каб гнаць у поле жывёлу. Бацькі ўжо не было ў ха-

(Працяг на стар. 4).

*) Пачатак глядзі ў № 17, 18, 19 „Нівы"

# ПОМ у Нарве

Было гэта ў 1950 годзе. На пяшчаных Надрэчных землях над Нарвай паявіліся людзі з землямерчымі прыладамі. Змерылі, пазабівалі калкі і пачалася будова аднаго з самых вялікіх ПОМ-аў Беластоцкага ваяводства.

Пабудавана вялікія прылады, гаражы, будынак дырэкцыі, бензінавую станцыю і г.д. і г.д. Усё каштавала каля 2 мільёнаў злоты

Навокал нарасталі кааператывы. Да кастрычніка 1956 г. было іх аж 13. ПОМ дастаў 1592 гектараў зямлі і сенажацяў пад апрацоўку, так што працы людзям хапала. Пасля кастрычніка, засталося ўсяго толькі тры кааператывы і некалькі дзесяткаў зямлі.

Са 110 людзей аказалася, цяпер працуе там усяго толькі 45. Ліквідавана палітычны апарат, які амаль і не працаваў. У ПОМ-е засталося 32 трактары і дзесяткі іншых цяжкіх і лёгкіх машын. На працягу зімы прыслана яшчэ шмат новых машын. Можна-б спытаць: «Навошта?».

ПОМ зусім дэфіцытны, кааператывы, якія развязаліся — маюць шмат даўгоў і хто ведае калі з іх разлічацца. Праз усю зіму і вясну трактарысты займаліся вывазам дрэва з лесу, пры тым напатыкалі таксама труднасці, бо, вось напрыклад, не мелі адпаведных прычэп, а вядома, калі няма добрай рэнтабельнай працы — то ПОМ не мае ніякіх даходаў.

Галоўны механік грам. Скаўронскі з нейкім жалем у голасе расказвае аб сітуацыі, якая вытварылася ў ПОМ-е, аб новых пастановах пры дапамозе якіх быццам імкнуцца змяніць гэтую сітуацыю.

ПОМ можа прадаваць сялянам непатрэбныя яму машыны.

Вялікія і лішнія новыя машыны ПОМ прадае ПГР-ам і сельскагаспадарчым школам. У майстэрнях праводзіцца ўсялякія рамонты. Дзеля таго, каб даць людзям нейкую працу ПОМ распачаў выраб вазоў на гумовых колах. Гэткі воз каштуе 9 тысяч злоты. Дагэтуль з акалічных вёсак прыйшло 50 запатрабаванняў на вазы, але што з гэтага, калі няма патрэбных частак. 7 вазоў ужо зроблена. Хто гэткі воз можа купіць? Хто купляе дарагія сельскагаспадарчыя машыны? Ці бедны селянін? — Не! Хутчэй за ўсіх гаспадары багатыя, яны-ж маюць грошы.

Набліжаецца лета, што будуць рабіць трактарысты і ўся машынна-трактарная станцыя.

Ужо цяпер брыгадзірам прыйшлося хадзіць па вёсках і намаўляць сялян, каб падпісалі дагаворы на апрацоўку зямлі машынамі ПОМ-а. У чым прычына?

Паводле старай умовы за апрацоўку аднаго гектара зямлі ПОМ-у плацілася 170 зл., а цяпер ад 200 — да 260. З боку ўрада ўвелзена павышку дзеля таго, каб ПОМ быў менш дэфіцытным, але сяляне не хочуць тут падпісваць дагавора, паводле гэтага ім больш зручна апрацоўваць зямлю коньмі.

Так званыя апрацоўвачныя суполкі маюць 20 працэнтаў льготы, але нажаль дрэнна дзейнічаюць.

Хто можа карыстацца машынамі ПОМ-а і плаціць за апрацоўку зямлі гэтак высокую цану? Ці бедны селянін?

Па-мойму, калі ПОМ гэтак ставіць справу, што памагаць будзе таму, хто заплаціць, каб як найбольш рэнтабельным ён быў — значыцца ён губляе з вачэй сэнс нашай сельскагаспадарчай палітыкі.

Таму трэба пакласці ўсе намаганні на тое, каб стварыць як найбольш сялянскіх суполак і не фікцыйных на паперцы, а гэткіх сапраўдных і добра працуючых. Тады іменна гэтыя суполкі будуць купляць машыны, тады і багатыя не будуць выкарыстоўваць беднату.

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ



*ПОМ у Нарве.*

# З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА СЕЛЯНІНА

*«На нашым хітрым свеце*
*Усяляк жыве народ.*
*Адзін жыве па-людску,*
*Другі жыве як скот..»*
*Я. КУПАЛА.*

У палове дарогі паміж Бельскам і Гайнаўкай пры шасэ прыселі як грыбы пабудовы вёскі Збуч. Шасэ з'яўляецца адзіным акном на свет для тутэйшых сялян. Яна іх давядзе ў горад за патрэбамі ў кожную пару года.

Але горшая справа, калі хтосьці захоча паехаць у другім напрамку, напрыклад у мястэчка Орлю. Асабліва позняй восенню ці ранняй вясною. Прыходзіцца часта завязнуць па дарозе не даехаўшы нават да вёскі Мора, якую аддзяляе ад Збуча толькі дзве вярсты.

Сяляне цэлае сваё жыццё мараць аб тым, каб тут пракласці маставую, толькі іх мары ніяк не могуць здзейсніцца. Як мералі балота — так і далей мераюць. А калі яго захочуць абысці — тады едуць напрыклад у Орлю навокал, праз вёску Шчыты, адкуль у мястэчка пракладзена маставая. Яшчэ горш выглядае справа, калі хто-небудзь захоча дабрацца са Збуча ў Мора, ці наадварот. Каб не ўтапіцца з канём і возам у балоце — ён можа туды дайсці пехатою навокал, праз вёску Старае Беразова і далей ўздоўж чыгункі.

Вось гэтую трасу я выбраў сабе, калі задумаў на Вялікдзень дабрацца з Мора да сваіх сваякоў у Збуч. Падняўся мяне там завесці мой швагер. Селі на веласіпеды ды паехалі. Незадоўга спыніліся ў Збучы ля маленькай, урослай ўжо са старасці ў зямлю хатачкі. Тут аказваецца жывуць мае сваякі.

Нас прывітала на падворку адна з дочак гаспадара, якая якраз выбіралася ў царкву. Мы прадставіліся і нас папрасілі дахаты. Увайшоўшы туды прывіталіся з усімі, у першую чаргу з гаспадарамі. Галава дома — старэнькі мужычок падкуліўшы пад сябе худзенькія ногі, ляжаў на глінянай печцы абапёршы аб комін галаву. За ім у куточку на кукішках сядзела худзенькая старушка — яго жонка. На печцы яны пражылі большую частку свайго жыцця. Тут яны адпачываюць пасля цяжкай працы, тут грэюць свае старыя косці. Дзеці гаспадароў — цэлая пяцёрка — адпачываюць на доўгіх дошках, пракладзеных ад печкі да процілеглай сцяны.

Жыццё маіх сваякоў сапраўды вельмі цяжкае. Было яно яшчэ цяжэйшым да вайны, калі дзеці былі малымі. Трохгектаровая гаспадарка ніяк не магла пракарміць сем асоб. Таму дзеці з самых маладых гадоў, замест таго, каб вучыцца ў школе пaслі вясковую жывёліну і да ўсіх іх прыліпла пагардлівае слова — пастухі. Вось чаму мае дочкі — скардзіцца гаспадыня — дагэтуль не выходзяць замуж. Каб яшчэ быў пасаг, дык можа хто-небудзь узяў-бы... Адна толькі — наймалодшая — паехала ў ПГР і там выйшла замуж. Напэўна не прызналася, — кажа старушачка, — што яна цэлае сваё жыццё была пастушкай.

Другая дачка навучылася шыць на швейнай машыне. Яна заўсёды марыць аб тым, каб купіць сабе машыну, толькі сама не ведае адкуль узяць на яе грошы.

Дзве найстаршыя мараць ужо толькі аб тым, каб як-небудзь пражыць сваё жыццё. Старэйшы наш сынок — кажа гаспадыня — паехаў па вёсках, каб здабыць крыху насення. Усе ўжо пасеялі, а мы не маем ніводнага зярнятка для нашай беднай зямелькі. Пракармілі ўсё жывёлінай, асталася адна салома. Вось, каб Бог даў, хутчэй зялёную травіцу, інакш уся нашая жывёліна паздыхае з голаду.

Пазнаёміліся мы ў хаце яшчэ з адной асобай — шаснаццацігадовым хлапчуком — наймалодшым членам сям'і. Ён тут таксама госцям, прыехаў з горада на свята да бацькоў. Наш наймалодшы сыночак пайшоў вучыцца — пачулі мы ад прыемнай старушачкі. Вельмі нам цяжка, але хочам, каб хоць адзін з сям'і не быў цёмны.

У часе нашай размовы з гаспадыняй яе дочкі непрыкметна выйшлі з хаты. Яны пабеглі да суседзяў, каб пазычыць нешта, чым-бы можна было нас пачаставаць. Незадоўга з'явілася на стале бутэлька гарэлкі і некалькі кусочкаў саланіны на талерцы. Як мы не стараліся, ніяк нельга было адмовіцца, каб не прысесці да стала. Калі мы ўжо сядзелі за сталом, цэлая сям'я неяк згінула з хаты. Відавочна, каб

(Працяг на стар. 5).

ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

# Ой, рана на Івана

*(Старонкі маленства Янкі Купалы).*

*(Працяг са стар. 3).*

це. На стале, прыкрытыя краем чыстага настольніка, стаялі збаны з сырадоем. Ля печы завіхалася маці. Янка прабраўся на покуць, дастаў з-за абраза кніжку, якую прывёз бацька, і схаваў яе за пазуху. Як хацелася яму навучыцца чытаць па-руску! Толькі як гэта зрабіць? Хто пакажа, навучыць? Маці? Добрая, ласкавая, маці, яна ахвотна спявала яму песні, але не ўмела чытаць і не магла дапамагчы ў яго бядзе. Бацька? Да яго лепш не звяртацца. Ён хворы, ледзь працуе і зноў вінаваты пану... Ды і грамаце яго мала вучылі.

Белагаловы Янка засмуціўся. Гадзінамі ў полі праседжваў над незразумелай кніжкай. Некаторыя літары траплялiся знаёмыя, іншых ён зусім не ведаў і слоў скласці не мог. Сядзеў, вадзіў пальцам, шаптаў. У гэты час з малымі сёстрамі аставалася нянька. Паслаў аднойчы бацька няньку, каб паглядзела, дзе скаціна пасецца. Стала яна ля Янкі, дзівіцца з яго.

— Што з табой робіцца, Ясю?

Хлопчык збянтэжыўся, апусціў галаву, потым, не тоячыся, расказаў аб сваім горы.

— Па такой бядзе жыць можна. Не бядуй, Яначка! Як я маладая была, адзін паніч, студэнтам ён быў, трошкі вучыў мяне грамаце. Пашукаю ў сваім куфэрку, там недзе буквар ёсць. Аддам яго табе — вывучыш літары і пачнеш чытаць...

Назаўтра Янка лавіў кожны шолах. Хоць-бы хутчэй пачуць знаёмыя лёгкія крокі. Стрымала яна слова, прынесла буквар ды яшчэ дапамагла вывучыць літары.

Праз тыдзень Янка чытаў і з таго часу ніколі не расставаўся з кнігай.

Акуратна плаціў Луцэвіч памешчыку за арэнду. А зімою пала ў яго карова, туга стала. Пан не хоча пачакаць, патрабуе — плаці.

К начы, вяртаючыся з работы, бацька ўбачыў, як прагна чытае сын, і забурчэў:

— Панская выдумка, так і газы не набярэшся...

Тады хлопчык стаў чытаць пры лучыне. Маці прадзе, а ён, прыхінуўшыся да прыпека, чытае...

Бывала і так. Пасецца ў лесе жывёла. Янка раскладзе невялічкі агеньчык у зацішку, пакладзе туды корч, каб даўжэй гарэў, а сам — за кнігу...

Калі дома збіраліся на абед, Дамінік Ануфрыевіч заўсёды напамінаў жонцы:

— Пашлі дзяўчатак, няхай паглядзяць, дзе жывёла. Чуе маё сэрца, што ў шкоду ўбілася.

— Дык там-жа Ясік! — усміхнецца Бянігда Іванаўна.

А сама ўжо не раз пасылала дзяўчатак. Тыя пойдуць, адгоняць кароў ад гароху, выганяць авечак з аўса. А Янка так зачытаўся, што не бачыць і не чуе. Толькі сёстры вельмі любілі старэйшага брата і не скардзіліся бацьку.

### РАННЯЙ ВЯСНОЮ

Надышла вясна. Удзень і ўначы чуцен за вокнамі серабрысты звон капяжу. Загаманілі ручаі ў полі. Майструюць хлопчыкі карабельчыкі з сасновай кары, пускаюць іх па лужынах. І Янка разам з імі. Недалёка ад хаткі Луцэвіча ўсю зіму і вясну палілася пячурка. Яна абагравала багатыя панскія цяплiцы.

Ідучы ў поле, Бянігда Іванаўна заўсёды наказвала дзецям:

— Гуляйце ля свайго ганка — барані божа, да агню не падыходзьце.

Загуляўся з вясковымі хлопчыкамі Янка. Пакруцілася ля іх і адбегла ў бок сярэдняя Янкава сястра Маня, хочацца ёй пагрэцца. Печка-ж распалілася, аж чырвоная стала. Патрэскваюць, шыпяць у ёй дровы, быццам запрошваюць: «Хадзі пагрэйся...»

І хочацца Мані падысці бліжэй, паглядзець. Яна аглянулася на брата, асцярожна крадзецца да агню.

— Няможна, Маня! Назад! — крычыць ёй Янка.

Адзін раз вярнуў, другі, а пасля недагледзеў.

Вось Маня ля самай печкі.

«Я чапаць агню не буду, толькі пагрэюся», — думае дзяўчынка. Стала і зажмурылася ад здавальнення. Добра, што ніхто са старэйшых не бачыць. Ані не страшна. Зусім блізка пырхае жоўтагрудая сінічка, вось вось сядзе на траву.

— Цінь-цінь-ці-і-інь...

Каб не спалохаць птушку, Маня бліжэй туліцца да агню. Раптам на спіне ў яе задымілася, затлела сіняя паркалёвая сукенка. Шугануў агонь, раздзьмуты ветрам, падабраўся да белых Маніных кос. Нясцерпны боль і крык:

— Ма-а-ама!

Янка сарваўся з месца. Не чуючы пад сабой ног, паімчаў да сястры. Здаецца, рукой падаць, і спяшаецца ён на ўсю моц. Ды ці-ж угонішся за агнём? Секунды не прайшло, а ўжо гарыць Маня, гараць каля яе сухія кусты, леташняя трава. Босымі нагамі топча іх Янка, зрывае з сястры ашмоткі сукенкі, кашулі, кідае іх на зямлю. Хавае галоўку Мані ў сябе пад світкай на грудзях. Ён хоча крыкнуць, паклікаць на дапамогу і толькі разяўляе рот. Вакол ужо мітусяцца людзі з цэбрамі, вёдрамі. Абліваюць малую вадой. Жанчыны пачына-

# ВІЦЕБСК



*Віцебск. Плошча Свабоды.*

У поўночна - ўсходняй частцы Беларусі, на берагах Заходняй Дзвіны, раскінуўся горад Віцебск. Заходняя Дзвіна разразае горад на дзве часткі, накладаючы вялікі след на яго агульную планіроўку, унутраную геаграфію і вонкавы выгляд. Найбольш старажытная частка горада маляўніча раскінулася на высокім левым беразе ракі, моцна зрэзаным шматлікімі глыбокімі ярамі. Круты, абрывісты бераг Заходняй Дзвіны, яшчэ больш узмацняе пануючае становішча левага берага над ракой і правабярэжжам. Тут у глыбокай старажытнасці і быў закладзен Віцебск, першыя весткі аб якім адносяцца да 1021 года. Цяпер у гэтай частцы размешчаны ўсе адміністрацыйныя і навуковыя ўстановы, рад прадпрыемстваў, захоўваюцца найбольш старадаўнія будынкі і гістарычныя помнікі.

Правабярэжная частка больш маладая і з'яўляецца асноўным прамысловым раёнам Віцебска. Развіццё гэтай часткі горада і канцэнтрацыя ў ёй прамысловасці цесна звязана з чыгуначным будаўніцтвам і ўтварэннем тут вузлавой станцыі. З 1802 года Віцебск стаў цэнтрам губерні. Пабудова чыгунак Рыга — Орол і Пецербург — Кіеў важным вузлом якіх ён стаў, стымулявалі развіццё прамысловасці і рост насельніцтва.

У 1913 годзе насельніцтва Віцебска складала звыш 100 тысяч чалавек. Ён вызначаўся сярод іншых беларускіх гарадоў больш высокім узроўнем канцэнтрацыі капіталістычнай прамысловасці, глыбокія карэнні ў якую пусціў замежны манапалістычны капітал, асабліва бельгійскі. Яму належалі ільнопрадзільная фабрыка «Дзвіна», гарадскі трамвай і іншыя прадпрыемствы. «Дзвіна» з'яўлялася буйнейшым прадпрыемствам Беларусі, на ёй было занята 1.200 рабочых. Аблічча горада - вызначалі тэкстыльная, харчовая і металаапрацоўчая галіны прамысловасці. Да рэвалюцыі Віцебск быў малаўпарадкаваным горадам, хоць і лічыўся адзіным у Беларусі, які меў трамвайную лінію з 1898 года. Трамвай, водаправод, каналізацыя, электрычнасць былі толькі ў цэнтральнай частцы. Школ налічвалася мала. Гэты параўнальна вялікі горад абслугоўвала толькі адна бальніца.

Карэнныя змены ў гаспадарцы горада адбыліся за гады савецкай улады. Побач з ростам раней існаваўшых, паявіліся новыя галіны прамысловасці — станкабудаванне, швейная, мэблёвая і іншыя. Валавая прадукцыя прамысловасці ўжо ў 1937 годзе перавысіла ўзровень 1913 года амаль у 32 разы. У перыяд акупацыі прамысловыя прадпрыемствы былі амаль поўнасцю знішчаны. Выпуск прадукцыі ў 1946 годзе склаў толькі 8 працэнтаў да даваеннага ўзроўню.

Хутка адноўлены пасля вайны, Віцебск стаў буйным прамысловым цэнтрам рэспублікі. Асабліва вялікае развіццё атрымалі тут станкабудаванне, тэкстыльная і харчовая прамысловасць.

Віцебск выпрабляе 3/4 усёй колькасці станкоў, якія выпускаюцца ў БССР. Першынец станкабудавання горада — станкабудаўнічы завод імя С. М .Кірава — асвоіў выпуск аўтаматычных станкоў для машынабудаўнічай прамысловасці. Завод імя Комінтэрна выпрабляе станкі для апрацоўкі лёгкіх сплаваў, абточкі алмазаў, дакладныя прэцызійныя станкі, а таксама запасныя часткі для трактараў і сельскагаспадарчых машын. У Віцебску працуе завод заточных станкоў.

У шостай пяцігодцы прамысловасць горада папоўніцца буйным заводам радыёдэталей. З пабудоваў у Віцебску завода «Станкаліт» станкабудаванне атрымае ўласную ліцейную базу. Цяпер шырокае развіццё атрымала тэкстыльная прамысловасць. Віцебск дае прыкладна 3/5 валавой прадукцыі тэкстыльнай прамысловасці рэспублікі. Віцебская фабрыка «Кім» — самае буйнае прадпрыемства трыкатажнай прамысловасці Беларусі. На горад прыпадае каля 80 працэнтаў рэспубліканскай вытворчасці панчошна - шкарпэтказых вырабаў і звыш палавіны прадукцыі бялізнавага трыкатажу.

Пасля вайны наладжан выраб дываноў. Дывановы камбінат з'яўляецца адзіным у БССР і адным з самых значных у Савецкім Саюзе прадпрыемстваў па вырабу дываноў і дарожак. Жакардавыя, набіўныя, стужкавыя дываны, упрыгожаныя беларускім арнаментам, карыстаюцца вялікім попытам далёка за межамі рэспублікі.

Тут у канцы пятай пяцігодкі пабудавана адзіная пакуль у БССР шоўкаткацкая фабрыка. Віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» належыць да буйнейшых швейных прадпрыемстваў БССР.

Вялікае будаўніцтва, якое вядзецца ў горадзе, забяспечваецца ў асноўным будаўнічымі матэрыяламі мясцовага вырабу. На ўскраіне Віцебска знаходзіцца камбінат будматэрыялаў, недалёка ад горада, на берагах Заходняй Дзвіны, размешчаны самыя буйныя ў БССР вапнавыя заводы «Руба» і «Вярхоўе».

У шостай пяцігодцы ў горадзе ўзнікла новая вытворчасць -- жалезабетонных вырабаў і канструкцый

У шостай пяцігодцы з расшырэннем пабудаванай пасля вайны Віцебскай ЦЭЦ значна ўзмоцніцца электраэнергетычная база прамысловасці.

Віцебск — важны культурны цэнтр. Тут ёсць медыцынскі, ветэрынарны і педагагічны інстытуты, тэхнікумы, многа школ, шырокая сетка культурна - асветных устаноў. У горадзе працуе вядомы на ўсю рэспубліку Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа, для якога цяпер будуецца новае памяшканне.

Працягваюцца работы па рэканструкцыі і добраўпарадкаванню Віцебска. У многіх месцах горада ствараюцца прыгожыя архітэктурныя ансамблі з шматпавярховых будынкаў з утульнымі кватэрамі, напрыклад, па Ленінскай вуліцы і інш. У апошнія гады асабліва ўзмацнілася жыллёвае будаўніцтва, значныя работы праведзены па добраўпарадкаванню горада.

Найбольш прыкметнае развіццё жыллёвага будаўніцтва наглядаецца на Маркаўшчыне — гэтай у мінулым глухой і закінутай ускраіне, а цяпер буйным прамысловым раёне горада. Толькі за 2 апошнія гады на вуліцах горада высаджана 17 тысяч дрэў, тысячы кустоў, разбіты скверы і паркі, каля 80 тысяч квадратных метраў тратуараў, вуліц і плошчаў пакрыта асфальтам.

Ажыццяўленне намечаных планаў новага прамысловага і жыллёвага будаўніцтва ў Віцебску ў бліжэйшыя гады зробіць яго адным з найбольш індустрыяльна развітых і прыгажэйшых гарадоў Беларусі.

Е. СОБАЛЕЎ
навуковы супрацоўнік
Інстытута эканомікі
Акадэміі навук БССР.

## Карысна ведаць, што...

чарнільныя плямы на белых тканінах можна выводзіць з дапамогай лімоннай кіслаты. Для каляровых тканін трэба ўжываць сумесь гліцэрына з дэнатураваным спіртам (пяць частак спірту і дзве часткі гліцэрыну). З чыста шарсцяных вырабаў і вырабаў з натуральнага шоўку чарнільныя плямы лепш за ўсё знімаць дэнатуратам з дабаўленнем салянай кіслаты (дзве — тры каплі кіслаты, на адну сталовую ложку дэнатурату). Пасля гэтага трэба добра прамыць гэтае месца вадой.

*

Травяныя плямы на вопратцы, калі яны свежыя, можна зняць, прамываючы цёплым мыльным растворам з дабаўленнем невялікай колькасці нашатырнага спірту. Больш старыя плямы знімаюць дэнатураваным спіртам.

*

Плямы ад фруктаў, калі яны свежыя, знімаюць гарачай вадой. Карысна пляму некалькі мінут папярэдне патрымаць у гарачым малацэ, а потым ужо прамываць. Больш старыя плямы знімаюць растворам лімоннай або шчавелевай кіслаты (два грамы на шклянку вады), пасля чаго добра прамыць цёплай вадой. Плямы ад фруктаў можна таксама адмыць у лёгка падагрэтым дэнатураваным спірце.

ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

## Ой, рана на Івана

*(Старонкі маленства Янкі Купалы).*

*(Працяг са стар. 5)*

і кавалку жытняга хлеба рады. Не надрывай маё сэрца, не прасі, Ясік...

Пакорліва адышоў Янка, у вачах слёзы.

Застракатаў цвыркун на печы. Адганяючы сон, маці ўстала, пайшла ўвіхацца па гаспадарцы. Невялікія яе рукі працавалі без стомы. Дома пасярод чыста прыбранай хаты стаяў самаробны ткацкі станок. Бянігда Іванаўна сама прала і ткала, каб адзець дзяцей. А потым цэлымі днямі і часта начамі працавала яна на панскім двары.

Ведалі яе на рабоце як надзвычай працавітую і сумленную жанчыну. І нават прыдзірлівы панскі аканом лічыў, што толькі ёй можна даверыць самыя цяжкія і адказныя гаспадарчыя справы. Мела Бянігда Іванаўна асаблівую здольнасць: сама любіла паказаць менш вопытным парабчанкам, як даіць карову, стрыгчы авечак, як прыняць маленькае цяля. Да хатняй работы яна змалку прывучала і сваіх дачок. Любая работа гарэла ў яе руках. Усюды яна наводзіла чысціню да бляску і, вядома, траціла на гэта нямала сіл.

Янка любіў сваю маці і ніколі-б не парушыў яе спакою, каб не гэтыя кніжкі.

Папраўіў ён белую саматканую кашулю, высунуў з-пад ложка запаветны куфэрак, падняў цяжкае вечка. Вось і любімыя кнігі! Не так іх шмат. Але і яны нялёгка дасталіся хлопчыку. Маўклівы і ціхі, ён мог дзеля кнігі пайсці за дзесяткі вёрст. Рады быў дагадзіць пісьменнаму чалавеку, толькі-б атрымаць ад яго ва ўзнагароду кнігу. У куфэрку сабрана ўсё яго багацце. Кожная кніга як люстэрка — нідзе ні плямінкі, ні парушынкі. Ляжыць на дне новенькі каляндар, той самы, па якім Янка нядаўна вучыўся чытаць. А побач з ім — буквар, які немалую службу саслужыў усёй сям'і Луцэвічаў: па ім зімой Янка навучаў грамаце і сясцёр і маці.

— Быць, Ясік, табе «дарэктарам», — марыла тады, усміхаючыся, Бянігда Іванаўна.

«Дарэктарамі» ў той час называлі «вандроўных» настаўнікаў. У беларускіх сёлах пры цары школ было мала, настаўнікі пераходзілі з хаты ў хату і за невялікую плату вучылі грамаце вясковых хлопчыкаў. А дзяўчынак вучыць зусім было не прынята.

Нудзіўся Янкаў бацька, выгаворваў нярэдка сыну: куды той ні ідзе, усюды нясе з сабою кнігі. У доўгія-ж зімовыя вечары ён клікаў Янку да сябе загадваў прысесці на сваёй пасцелі і прасіў:

— Пачытай трошкі!

Янка бойка чытаў яму напамяць вершы Некрасава:

*Вижу я в котомке книжку,*
*Так, учиться ты идеш...*
*Знаю: батька на сынишку*
*Издержал последний грош.*

Бацька слухаў, зрэдку ківаў галавою. Нечакана хмурыў выцвілыя на сонцы бровы, перабіваў:

— Ты не бубні, акуратна, павольна чытай, з толкам...

Ад усяго сэрца, хвалюючыся, чытаў Янка:

*Не бездарна та природа,*
*Не погиб еще тот край,*
*Что выводит из народа*
*Столько славных то и знай, —*

*Столько добрых, благородных,*
*Сильных любящей душой*
*Посреди тупых, холодных*
*И напыщенных собой!*

А Дамінік думаў: «Сын у мяне адзін, жыць не буду, калі не вывучу...»

Уголас ён быццам баяўся пра гэта сказаць. Здаўна было заведзена на гаспадарцы, што сын становіцца памочнікам бацькі. І, натуральна, маючы сына, Дамінік Ануфрыевіч у першую чаргу патрабаваў ад яго дапамогі ў гаспадарцы, даручаў пасвіць жывёлу. Непрыкметна ў рабоце праляцелі вясна і лета, настала восень. Холадна пастушку ў асеннія вечары... Падагнаў Ясь кароў і авечак у зацішнае месца сярод алешніку, расклаў агонь. Не адразу ён загарэўся. І бяросту падкладаў, і сухое лісце. Паваліў гаркаваты дым, полымя ахапіла адну, другую галінку. Янка выцер рукі, выцягнуў з-за пазухі кнігу. Зачытаўся. Забыўся пра ўсё на свеце. Збіліся ў кучу авечкі. Стоячы на месцы, ляніва жуе жвачку пярэстая карова і раптам узняла морду, паглядзела на хлопчыка, замычэла. Апамятаўся Янка. Ужо запаліліся над лесам першыя зоркі, шырокатвары месяц узлез на верхавіну сівай ёлкі. Даўно час дадому.

Зайшло сонца. Павячэралі і палеглі спаць сёстры. Адна толькі маці ўсё яшчэ чакала свайго сына, захінуўшы свежым ручніком гарачую бульбу.

*(Працяг будзе)*




## Так бывае ...



— Волечка, дарагая, нарада зацягваецца. Дома буду пазней.

## ФОКУСНІКІ

*Свайго сябру я спаткаў прыпадкова, якраз у гэты момант, калі ён з трудам адчапіўся ад аўтобуса.*

*Самі ведаеце, цяжка ў нас забрацца ў камунікацыю, але выбрацца адтуль яшчэ трудней. Мужчыны на правах цяжарных жанчын, уваходзяць пярэднім памостам, у выніку чаго пры выхадзе паўстае затор.*

*Сустрэўшы сябру — расказваю яму, як будучы ў Варшаве бачыў фокусніка ў кітайскім цырку. Фокуснік, на маіх вачах, клаў лыжачку ў шклянку і лыжачка недзе гінула.*

*— Вялікая справа лыжачка, — сказаў сябра, — да нас прыслалі гадзіннікі па 180 зл, і гэтыя гадзіннікі ўміг зніклі.*

*— Пастой, перабіў я прыяцеля, потым фокуснік накрывае шклянку шоўкавай хустачкай і лыжачка ізноў з'яўляецца. Тут сябра схапіў мяне за руку кажучы: гадзіннікі таксама з'явіліся на другі дзень, на Сенным рынку, па 300 зл. штука.*

*Схапіў я сябру за гузік, прыцягнуў да сябе і кажу: — Я таксама навучыўся фокусаў, бяру калодку картаў, ты якую-небудзь карту задумаеш, я кідаю карты і задуманая табою карта адбіваецца ад дзвярэй.*

*— Хе-хе-хе, вось чым перакапаў, у нас шмат добрых пачынанняў адбіваецца аб дзверы бюракратызма, хочаш — я цябе пасаджу ў аўтобус так, што ні адзін гузік не адарвецца — прамовіў сябра.*

*Я згадзіўся.*

*Калі пад'ехаў аўтобус і чакаючыя пачалі ігру ў цесную бабу — сябра пацягнуў мяне за руку і я заўважыў, як перад намі расступаюцца людзі. Услед за намі несліся лаянкі, але сябра на гэта не звяртаў увагі. Грамадзянін, які схапіўся за ручку і стаяў ужо на падножцы аўтобуса, пры набліжэнні сябра ўздрыгнуўся, саскочыў на зямлю, штосьці закрычаў, але мы ўжо былі ў аўтобусе.*

*— Слухай! Выяў мне сакрэт гэтага фокуса — папрасіў я сябру.*

*— А не будзеш на мяне крыўдаваць?*

*— Што ты, наадварот, буду табе вельмі ўдзячны, — упэўніваў я сябру і сію мінуту адчуў востры ўкол шпількай.*

*Так, дарагія чытачы, у фокуснікаў нават маленькая шпілька адыгрывае вялікую ролю.*

Дзядзька Лявонь

## НАРОДНЫЯ ПАГАВОРКІ

**Добрае далёка чуваць, а ліхое яшчэ далей.**

**Найтрудней пакуль з дому выбярэшся**

**Гэта ні дорага калі ёсць дзе купіць, гэта дорага як ні дастаць.**

Верш праўдзівага здарэння

## Пра квіты і ўпамнення

*Сяляне звяртаюць увагу і скардзяцца на тое, што вельмі дрэнна вядзецца ў нас сельскагаспадарчая дакументацыя.*

— Так, за прошлыя гады,
За нястачу шарваркову,
Пратаколчык на карову...
— Ды я-ж адрабіў тады!..
Калі ласка — вось квіты.
— Значыць не аднатавалі?
Адпісаў і глядзіць далей.
— А падаткі плаціш ты?
— Плачу і незалягаю!
Аднак паняць не дам рады —
Чаму з Павятовай рады
Упамнення прысылаюць?
— Гэта, браток, наша справа!
— Ну, я ведаю, што ваша,
Аднак упамнення страшаць...
— Годзе гарадзіць браток;
Бачыш, залягаеш з ратай!
— Запісваю парасята...
— Стоп! — Паказвае квіток.
— Вельмі добра, выбачайце.
Бачу ў вас усё ў парадку;
Ды за «пээтоўску» складку,
Мне квіточак пашукайце!
На печы поў дня шукалі
Чыста боскае скаранне!
— Квіт згубіўся, што рабіць?
Мы штрахоўку заплацілі!
Агент: — Раджу ў гэтай хвілі —
Мне «залегласць» заплаціць!...

КОРАНЬ

## ЭПІГРАМЫ

### АТЭІСТ.

Навошта дзецям рэлігія ў школах?!
А сам паціху ходзіць да касцёла...

### ВАРАЖЫХА.

— Відна ў картах, што твой лёс прыгожы.
Яшчэ больш скажа, заплаці дарожэй.

### ДЗЕЯЧ

Хацеў быць галавою рэволюцыйнага камітэта,
А хто ён такі, скуль узяўся, і дзе быў дагэтуль?

### КАВАЛЯМ.

Чабудуеце кузні, будзьце добрай веры!
Йдуць ужо матэрыялы толькі... на паперы.

КОРАНЬ

### Чакаюць аж вырасце

Сяляне вёскі Навасёлкі, каля Каралёвага Мосту, два гады таму назад на сходзе пастанавілі супольнымі сіламі пабудаваць пажарнае дэпо. Атрымалі дошкі і цэглу на пабулову. Дружна злажылі ўсё ля хлява начальніка пажарнай каманды — грам. Янкі Садоўскага і чакаюць ужо другі год — аж дэпо само вырасце...



*— Выбачайце, не сюды трапілі. Ідзіце ў наступныя дзверы.*

## ЛЯЦЕЛА ЗЯЗЮЛЯ




Ляцела зязюля праз бор кукуючы,
Заплакаў Ясенька з вячорак ідучы. (2)

Прыйшоў ён да дому, ня кажа нікому,
Кладзецца ён спаці на белай пернаці. (2)

Прыйшоў родны брацец, стаў Яся будзіці:
— Уставай, родны браце, мы пойдзем касіці! (2)

— Ня буду ўставаці, не пайду касіці,
— Бо я не здужаю косанькі насіці. (2)

Прыйшоў яго бацька, стаў Яся караці:
— Уставай, родны сынку, мы пойдзем гараці! (2)

— Ня буду ўставаці, не пайду гараці,
— Бо я не здужаю на валы гукаці. (2)

Прыйшла яго маці, стала наракаці:
— Трэба было сынку па трох не кахаці. (2)

Першая любіла — хустачку рабіла,
Другая любіла — кашульку пашыла, (2)

Трэцяя любіла — зеляйка варыла,
А ў нядзелю рана Яся атруціла. (2)

— О-то-ж табе, сынку, такая заплата:
— Тры дошкі сасновы — цёмненькая хата. (2)

Званы зазванілі на першу гадзіну,
Пахавалі Яся праз адну дзяўчыну. (2)

## КРАСФОРД



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Група спяваючых людзей.
2. Інакш рэкрутацыя ў салдаты.
3. Птушка, часта аб ім спяваем; ч...к, ч...к, дзе ты быў і г. д.
4. Гультай варочаецца з аднаго на другі . . .
5. Цвёрды, смольны, знойдзеце ў кожным дрэве.
9. Частка цела, на якой сядзіць галава.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Бывае цёмная, зорная, месячная...
4. Мужчынскае імя.
6. Гародная расліна, падобная да фасолі.
7. Чорны авадзень.
8. Прынясеш ім бульбу, але ніколі рады.
10. Голас дзікага звера.

Сярод чытачоў, якія да 31 мая прышлюць правільныя развязкі будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.

Р.

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł; kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa".
Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa. Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10,15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne, Nakł. 5000 T-10